rykі: myła, konfekcyi (fabryka hatovaj adziežy) i štučnych hnaoù.

**Trudnaści dla kooperacyi.** Kooperacyja jość prajavaj žyćcia demokratyčnaha. Dziela taho nia može jana svabodna raźvivacca tam, dzie ahulny kurs publičnaha žyćcia z demokracyjaj zryvaje. Niebiaśpiečnym taksama dla kooperacyi jość udavacca aktyŭna ŭ partyjnuju palityku. Usio heta adbivajecca ciapier na niamieckaj kooperacyi, jakaja, u źviazku z h. zv. nacyjanalnaj revolucyjaj, apynułasia pad uładaj ludziej, jakija u kooperacyi nie zacikaŭleny, a nia raz navat joj praciŭnyja. — Toje samaje zarysoŭvajecca i ŭ inšych krajoch — i ŭ Polščy,— dzie ludzi pieracanili važnaść pomačy dla kooperacyi z boku ŭradu i na joj usio budavali. Tymčasam istota kooperacyi nie źmianiłasia ad času jejnych pačynalnikaŭ — jana palahaje nie na pomačy sa starany, ale tolki vyklučna na samapomačy.

**T-va Ukrainskich Kooperatystaŭ** maje chutka prystupić da pracy. Arhanizacyjny Schod u m-cy travieni apracavaŭ i zaćvierdziŭ užo statut. T-va budzie ideolohičnym centram ukrainskaj kooperacyi.

**Łučacca.** Piać Sajuzaŭ polskaj ziemlarobskaj kooperacyi łučacca ŭ adzin. Hetak pastanavila Parazumievaŭčaja Kamisija ŭ Varšavie 19.V. s. h. — Tolki kab nia vyšla z hetym łučeńniem tak, jak hady try tamu z kazionnym łučeńniem polskich fachova-ziemlarobskich arhanizacyj, h. zv. „kółkaŭ" i „C.T.R."?—Łučacca taksama try sajuzy kooperacyi žydoŭskaj: Sajuz žydoŭskich kooperatyŭnych t-vaŭ u Polščy, Ahulny Sajuz u Lvovie i Sajuz žydoŭskich kupieckich t-vaŭ.

**„Społem"** — polski Sajuz spažyvieckich kooperatyvaŭ — **za 1932 hod.** U 1932 h. „Społem" ab'jednyvaŭ 821 kooperatyvu (u 1931 h. było ich 951), z čaho spažyvieckich — 769, „uzajemnaj pomačy" — 27, kredytovych — 9 i vytvorčych — 9. — Handlovyja abaroty za hod vynosili: 74.8 mil. i ŭ paraŭnańni z 1931 h. pamienšylisia na 9.1 prac. Arhanizacyjnaja lojalnaść (viernaść) uzrasła z 45 prac. na 48.8 prac. — Ułasnyja fondy na kaniec hodu vynosiać 4.026 tys. zł. Handlovyja košty Sajuzu vynosili 2.87 prac. ad abarotu. Bilansovaja nadvyžka za 1932 h. vynosić 75.273 zł.

Pry kancy hodu było ŭ Sajuzie 654 ŭradaŭcy, u tym 32 lustratary. Žurnał sajuzny „Społem!" raschodziŭsia ŭ 1.255 egzemplaroch, a popularnaja „Spólnota" — u 24.000 egz. Akramia taho Sajuz za hod vydaŭ 5 knižak. Z Karespandencyjnych Kursaŭ Sajuzu karystała 311 asob z čaho 289 kooperatyŭnych pracaŭnikoŭ.

**Ziemlarobskaja kooperacyja ŭ Čechasłavaččynie ŭ 1932 h.** Centralaj usiej kooperacyi ŭ ČSR jość Centrokooperativ. Jon łučyć u sabie 12 sajuzaŭ revizyjnych i 11 centralaŭ handlovych. Z pamiž sajuznych kooperatyvaŭ ziemlarobskich, ahulnaja suma jakich vynosiła 11.317, na pieršym miescy akazalisia kooperatyvy kredytovyja ŭ ličbie 5 999 (z čaho 5.307 h. zv. „Kampeličak" — českich Raiffeisenak—i 692 koop. kasy, h. zv. „založny"; paśla — 2 058 kooperatyvaŭ mašynovych i elektryfikacyjnych, 1.109 — aprovizacyjnych, 422— małačarskija, 326 — bravaroŭ, 217 — hadaŭlanych i zbytavych i h. d. Usie adzinaccać handlovych sajuzaŭ za haspadarčy hod 1931 zrabili abarotu 156.098 vahonaŭ usiakich tavaraŭ za 1.014.928.242 čes. karony: było pradana 23.041 vahonaŭ zbožža za 304.061.653 kč., 13.378 vahonaŭ inšych ziemlapłodaŭ za 92.157.733 kč. i kuplena dla svaich siabraŭ 119.679 vahonaŭ haspadarskaha pryładździa za 618.708.851 kč. (za 100 kč. płaciać 26.50 zł.)



наму гандлю (збожжа, яйца), абшырна ў нашай коопэратыве ўжываным. Пэнсыі крамнікаў выносяць: у Рачканах — 30 зл., у Пашкоўцах — 30 зл., у Перахрэсьці — 25 зл. і ў Мыслабажы — першыя два месяцы па 10 зл. на месяц. Кіраўнік, атрымоўвае 1,5 проц. ад абароту і мае ў абавязку: закуп тавараў, адміністрацыю і рахунковасьць ды касу.

Як бачым, адчыняючы новыя дзьве крамы, лічбу сяброў збольшылі мы ў тры разы, суму паёў — на палавіну, а абарот удвоілі. Новыя сябры, праўда, мала ўнясьлі гатоўкі, бо некаторыя—толькі ўпісныя; аднак-жа гэта нас не зьнеахвочвае: маем надзею і гэтаму зарадзіць.

Падсумоўвуючы цэлую нашую дасюлешнюю працу мусім сьцьвердзіць, што толькі энэргічнаю, з добрых пажаданьняў выплываючаю працаю можам амаль з нічога зрабіць для грамадзянства штось карыснага. Многа асоб ня верыла ў карысьць нашай працы, але пад спраўным нашым кіраўніцтвам гэты пэсымізм і нявера ў свае ўласныя сілы зьнікла. Такім спосабам мы здабылі давер ня толькі ў сваёй вёсцы, але і ў суседніх. Доказам гэтага могуць служыць ашчаднасьці сяброў і несяброў у коопэратыве, сальдо (астача) каторых на 31.III.33 г. вынесла 781,39 зл. Запісана-ж за гэты час 1.715.80 злотых. Вакалічныя вёскі просяць нас закладаць і ў іх крамы, але пры малым нашым ўласным капітале, нажаль, гэтага зрабіць тымчасам ня можам.

Для разьвіцьця коопэрацыі ў нашым районе ёсьць абшырнае поле. Недахоп толькі адпаведных людзей да кіраўніцтва. І так, абавязкава трэба было-б залажыць крамы ў мястэчках Ляхавічы і Сінёўка. Гэтая справа ёсьць вельмі пякучая, але няма пакульшто каму зрушыць яе з мёртвага пункту. Верым, што і гэта станецца.

У нашай гміне (Ляхавічы) ёсьць чатыры коопэратывы, каторыя маюць 9 крамаў (разам з нашымі). Ёсьць імкненьні да злучэньня ўсіх коопэратываў у вадну. Дойдзе да гэтага, калі будзе адпаведны кіраўнік.

**Янка Патаповіч**
кіраўнік Спаж. Коопэратывы „Рунь"
у Рачканах.

P. S.

Заклікаю ўсе беларускія коопэратывы даць зьведамленьні аб сабе на бачынах „Самапомачы."

*в. Рачканы, 26.IV.33 г.* Я. П.

# Сельская гаспадарка.

## Надыманьне ў жывёлы

З прыростам травы, асабліва-ж — канюшыны, на вясну заўсяды становіцца пільнай небясьпека надыманьня, перадусім у скаціны, радзей — у авечак. Ёсьць два віды надыманьня: а к у т н а е (раптоўнае, вострае) і х р о н і ч н а е (павольнае). Небясьпечна вельмі надыманьне вострае, пры каторым жывёла гіне часта ўжо за поўгадзіны: раз хутчэй, раз пазьней.

Цяжка лячыць усякае надыманьне. Дзеля гэтага трэба ведаць, ад чаго яно ўзьнікае, каб да яго наагул не дапусьціць.

Надыманьне паўстае з таго, што ў трыбусе жывёлы творыцца праз меру многа газаў, ад каторых трыбух расьпіраецца, націскае на лёгкія і жывёла ня можа здыхацца (дыхаць). Калі ў час ня выпусьціць з трыбуха набраных газаў, дык жывёла траціць магчымасьць дыхаць і настае сьмерць. Беспасярэдняй прычынай сьмерці бывае лопаньне самога трыбуха, або мускальнай перагародкі (diafragma) паміж грудзьмі і брухам. Бывае гэта асабліва тады, калі хворая жывёла з болю пачынае кідацца вобзем.

Газы, што набіраюцца ў трыбусе, паўстаюць там ад квашэньня, якое настае, калі жывёла праз меру наесца сачыстага корму, як маладой канюшыны, люцэрны, буйнай травы, або таксама гнілой бульбы, буракоў, сапсутай брагі. Шкодзіць таксама паша на аржышчы, дзе абышло выцерушанае збожжа, — асабліва-ж паша па расе і насупроць ветру.

Пазнаецца надыманьне перадусім паводле таго, што настае хуткае зьвялічваньне бруха жывёлы, а гэтак званая галадавая ямка (левая) хутка выпаўняецца аж праз верх. Жывёла перастае есьці, траціць жвачку, сіліцца на моч і кал і ўсё напрасна... Гэта ўсё пры надыманьні вострым; пры надыманьні-ж хранічным працэс гэты йдзе бяз хуткай небясьпекі і цэлыя тыдні.

Залежна ад таго, ці маем дачыненьне з надыманьнем вострым, ці з хронічным, розны бывае спосаб і ягонага лячэньня: скоры і рашучы — пры надыманьні вострым і павольны — пры надыманьні хронічным. Істота лячэньня аднак заўсяды таясамая: выдастаць з трыбуха набраныя там газы.

Пры вострым надыманьні гэткае выбіраньне газаў адбываецца двума спосабамі: або пры помачы гэтак званай **глытніцавай трубы** (папольску — *rura przełykowa*), або пры помачы **трокара**. — Глытніцавая труба зроблена з скручанага ў трубку дроту і пацягнена скурай; даўжыня яе прыблізна паўтара мэтра (два аршыны з лішнім). Ужываецца труба гэтак: хворая жывёла с т а в і ц ц а п е р а д а м в ы ш э й, у зубы ўстаўляецца ёй папярэчка з дзюрой, праз каторую і ўводзіцца труба аж у трыбух. Труба прад тым мочыцца ў цёплай вадзе і мажыцца алеем. Праз гэту трубу газы выходзяць і жывёла ратуецца. Папярэчка ўстаўляецца ў зубы на тое, каб жывёла не пакусала самой трубкі; перад-жа жывёлы мусіць стаяць вышэй, каб канец трубы ў трыбусе не запіхаўся набраным там кормам.

Калі-б ня было пад рукой глытніцавай трубы, або калі часам і яна не памагае, тады ўжываецца трокар (або і звычайны нож), каторым прабіваецца выпуклая галадавая ямка*) і таксама выпускаюцца газы. Трокар прадстаўляе сабой вострае, даволі грубое шыла, на якім знаходзіцца добра дапасаваны, таксама жалезны футарал (падобна, як у машынцы да рабленьня папяросаў, толькі што не раскладаецца). Ужываецца трокар гэтак: настаўляецца н а ў к о с над ямкай, на далонь уніз ад паясьніцы і прытрымоўвуючы аднэй рукой, другой моцна і раптоўна стукнецца ў апраўлены канец трокара. Трокар ад гэтага, разам з футаралам (трубачкай), пранікае аж у трыбух. Пасьля гэтага сам трокар (шыла) выймаецца, а трубка (футарал) астаецца і праз яго — у добрым разе — з сьвістам выходзяць на верх сабраныя ў трыбусе газы. Трывае гэта звычайна не карацей двух гадзін часу. Калі газы (сьмярдзючыя) ўжо больш ня выходзяць, тады а с ь ц я р о ж н а выцягваецца трубка трокару, прытрымоўвуючы пры гэтым пальцамі другой рукі скуру навакол раны, каб туды ня ўнікла паветра і магчымыя нячыстоты, якія маглі-б рану загнаіць. Самую-ж рану пасьля гэтага трэба абмыць і заляпіць смольнай або дзягцёвай налепкай.

Гэтак, у галоўных рысах, выглядае лячэньне ад надыманьня пры помачы трокару. Цяжкім ня ёсьць, трэба толькі пэўнай зручнасьці. Практычныя-ж гаспадары кажуць, што калі ўсе лекі акажуцца непамоцнымі і жывёла ледзь-ледзь стаіць ужо на нагах — слабеюць асабліва заднія ногі, — трокар напэўна паможа.

У найгоршым разе, калі небясьпека выдаецца нямінуючай, а пад рукой няма ні глытніцавай трубы, ні нават трокара, ужываецца звычайны нож. Мусіць ён быць даволі доўгі, ч ы с т ы. Прабіўшы ім бок скаціне, таксама як і трокарам, трэба ім час-адчасу а с ь ц я р о ж н а рухаць (плашмя!), каб лепш адчыняць рану і выпускаць газы. Помач нажа, ведама, ня так пэўная, як трокара і ўжываць яго радзяць, калі так ці гэтак, а «сьмерць ужо на языку.»

*) Г а л а д а в а я я м к а знаходзіцца над пахвінай, паміж апошнім жабром і гуздыром (бугром) падуздошнай касьці.

Як нож, так асабліва трокар (з футаралам) пасьля кожнага застасаваньня трэба старанна вычысьціць, да суха выцерці, памазаць нясоленай клустасьцю (ці алеем, алівай), завярцець у чыстую (няпісаную ані друкованую) паперу і пераховываць у чыстым, сухім месцы.

Лячэньне хронічнага надыманьня звычайна бывае цяжэйшым і з добрым вынікам можа яго правесьці толькі лекар-вэтэрынар.

А. К.

# Аб баранаваньні ярыны.

Ня рэдка можна сярод нашых гаспадароў спаткацца з думкай, што ярына — як і ўсякія іншыя засевы — як толькі дасталася ў зямлю, нічога ад чалавека ўжо не патрабуе. Гэта ня так: яна патрабуе усьцяж дагляду, патрабуе павeтра, каб дыхаць, бо-ж яна істота жывая. Праўда, расьціна мае кругом вельмі і вельмі шмат паветра, але доступ яго да ўсіх часьцін расьціны, прадусім да карэньняў, часта становіцца немагчымы. Бывае гэта асабліва тады, калі глеба па дажджох на цяжэйшых грунтох (гліна, глей) зьбіваецца ў непрапускны пласт.

Каб гэткую зьбітую глебу раскрышыць і даць доступ да карэньняў вольнаму паветру, трэба гэту глебу — з усеенымі ў яе пасевамі—баранаваць лёгкімі баронамі (пасеўнымі). Гэткае баранаваньне ярыны (аўса, ячменю) мае акрамя таго і тое яшчэ значэньне, што нішчыць абышоўшае пустазельле, перадусім— сьвірэпку.

Ужываньне бараны да раскрышэньня ссохшай скарынкі глебы спатыкаюць некаторыя с недаверам, бо баяцца, што пры гэтым пашкодзяць і самую ярыну. Вось-жа практыка выказала, што гэтыя страхі сусім беспадстаўныя, калі толькі барануецца засеў на цяжкой і ня вельмі перасохшай глебе. Баранаваць-жа яравыя засевы на глебе лёгкай ня можна, бо тут сапраўды можна пашкодзіць самую яравую расьцінку.

Міма ўсяго гэтага ня можна нікога сілком і на сьлепа змушаць ці намаўляць да баранаваньня яравых засеваў (аўса, ячменю): далёка лепш раіць кожнаму гаспадару, каб папробаваў забаранаваць хоць маленькі загончык сваіх яравых засеваў і пасьля сачыў за рэзультатамі ды пераканаўся асабіста. — Ня можна толькі баранаваць ярыны, покуль расьцінкі яшчэ сусім малыя, ня досыць замацаваныя ў зямлі, а таксама і прад самым іхным выплываньнем. Найбольш адпаведным часам да баранаваньня ёсьць мамэнт, калі расьцінка пачынае кусьціцца.

Нікога ўрэшце ня можа пужаць тое явішча, што ярына зразу пасьля баранаваньня сапраўды будзе выглядаць быццам пашкоджанай: за пару дзён яна напэўна акрэпне і разаўецца. — Баранаваць найлепш у пахмурны дзень ці прад вечарам.

Б. К—ў.

# Сьвірэпка і асот.

Сьвірэпка і асот гэта два найважнейшыя бадай непрыяцелі нашых яравых перадусім засеваў. Нашы гаспадыні часта аднак сьвята пераканаíны, што „каб ня было ў полі сьвірэпкі, ня было-б дзе набраць травы для парасяці". У выніку такога разуменьня справы нашы яравыя палі і палеткі не заўсяды бываюць зялёныя, але найчасьцей жаўцеюць ад сьвірэпкі, быццам залітыя сьмятанай. Няшчасьце гэта земляроба, бо сьвірэпка гэта праўдзівы абжора нашых і без таго галодных палёў. Навукай і практыкай даказана, што сьвірэпка гэтак буйна расьце сярод збожжа дзеля таго, што яна мае аж дзійную ўмеласьць адбіраць ад гэтага збожжа корм і ім карыстацца. Знача, гдзе буйна расьце сьвірэпка, там галадуе збожжа. І просты гаспадарскі розум дзеля таго дыктуе губіць сьвірэпку, як і гдзе толькі гэта можна. Тая-ж вымоўка, што сьвірэпка гэта быццам корм для парасяці ці каровы, ня сьмее ніко га мыляць, бо гэты „корм" і благі і вельмі, вельмі дарагі: благі, бо сьвірэпка мае ў сабе труючыя сучасткі, а дарагі — бо яна больш аб'ядае і шкодзіць збожжу, чым сама дае вельмі падазроннай карысьці.

Нішчыць сьвірэпку трэба ў кожную пару і рознымі спосабамі. Сьвежа абышоўшую сьвірэпку ў добра закараніўшымся збожжы нішчаць вострым баранаваньнем. У акопнінах яе трэба палоць ці аборываць. Калі станецца так, што сьвірэпка выперадзіць у сваім росьце само збожжа, дык астанецца адно — палоць яе. Асабліва ж ня можна дапускаць сьвірэпку да расьцьвету на полі: жоўта зацьвіўшая ад сьвірэпкі ніва даець найгоршае пасьведчаньне аб гаспадару самога поля.

Апрача гэтых спосабаў чыста мэханічных, стасуюць яшчэ да губленьня сьвірэпкі спосаб хэмічны, але толькі ў збожжы бяз усеўкі канюшыны, выкі ці чаго падобнага і покуль сьвірэпка далёка йшчэ да цьвету. Гэткая ніва за расы пасыпаецца або мелкім каінітам (4—6q на гэктар) або неалеяваным азотняком (1.0—1.5q на гэктар), або ўрэшце мяшанкай аднаго і другога.

Шкоднасьць асоту лягчэй трапляе кожнаму да пераканаíньня. Нішчыцца асот спосабам мэханічным: вырываецца з каранём каліва за калівам. Адпаведнай да гэтага парой ёсьць якраз вясна, калі асот у збожжы йшчэ выразна відацца, не сядзіць так глыбака закараніўшыся і ня вельмі калючы. Асабліва лёгка яго можна выцягваць пасьля дожджу. Ува ўсякім разе ня можна дапускаць, каб асот расьцьвіў.

Да рэчы ўспомніць урэшце, што нішчэньне асоту загадана і законам (Dz. U.R.P. № 41, паз. 363, 1931 г.). За выкананьне гэтага закону мае даглядаць паліцыя і віноўных можа штрафаваць грашмі і арыштам.

С. Б—і.

# Не пазьнецеся з касьбой.

Мыляецца той, хто думае, што чым больш пласт сена зьбярэ з свайго загону, тым больш будзе мець карысьці. Не, гэтак ня ёсьць. Хто спазьняецца з касьбой, той зьбірае з поля салому, а ня сена. А гэта розьніца. Адзін швэд (Гансон) напр. даказаў убываньне спажыўнай вартасьці сена з прыбываньнем ягонай старасьці на наступным прыкладзе. Ён касіў на тымсамым загоне сена з выкі ў розную пару ягонай сьпеласьці і сьцьвердзіў, што кілёграм такога сена скошанага прад цьветам меў у сабе 109 грам страўнага бялка*), а скошаны ў пару самога цьвету — ужо толькі 66 грам; кілёграм сена з зялёнага аўса, скошанага падчас цьвету, меў 40 грам страўнага бялка, а скошанага ў пару, калі зярню аўса было ўжо напалову сьпелае — усяго толькі 28 грам. Падобныя розьніцы сьцьверджаны ў сене мурожным і ў канюшыне.

Усё гэта згодна паказвае, што пакіданьне травы на пні, „каб падрасла," гэта толькі зманнасьць. Расьціна — як усё жывое — узрастае ў вартасьць і красу аж да часу цьвету; ад таго часу ўсё цаньнейшае расьціна магазынуе ў сваё семя, а ў сабе пакідае толькі матэрыял для спажывы бязвартасны і прыгатаўляецца заміраць. Вось-жа хто зьбірае сена кошанае пазьней цьвету, той замест поўнавартаснага матэрыялу на сена, зьбірае даслоўна самыя толькі аб'едкі. Гэткая расьціна вяне, дзеравянее, сохне на пні і становіцца звычайнай саломай.

Ясна з гэтага, што пратрымываньне расьціны на пні гэта звычайнае марнаваньне яе. Каб-жа да гэтага марнаваньня не дапусьціць, трэба касіць траву (і канюшыну!) найпазьней — у час ейнага цьвету, а то і пры самым толькі пачатку гэтага цьвету, як толькі выплываюць травяныя каласкі (вехі). Адступленьне ад гэтага правіла можна вынятка толькі дапусьціць пры трывала дажджлівай непагодзе. Ды і то не заўсёды. Практычна бяручы у Пятровы час мусіць быць касьба ў самым разгоне.

Кажуць, што «добры касец дажджом косіць, але пагодай сушыць." Не спрачаймася тут, ці добра „дажджом касіць." Затое праўдай ёсьць, што сена кошанае прад цьветам і ў самым цьвеце, асабліва канюшыну і ўсе матыльковыя, цяжэй высушыць, чым такое-ж сена кошанае пасьля цьвету. Сена з матыльковых расьцінаў дзеля гэтага найлепш сушыць на трыногах і пярэплатах.

**Сьцяпан Б—скі.**

---

*) бялко — гэта найважнейшая сучастка сена.

# Што рабіць з грыбамі?

Грыбы ў лесе гэта наша нявыкарыстанае багацьце. Трэба толькі іх так зьбіраць, каб ня нішчыць зародкаў на дальшы ўраджай, а сабраныя — адпаведна прыгатоўваць і сартаваць.

Перадусім што да самога зьбіраньня: ня можна так на дзіка вырываць грыбоў з зямлі: іх трэба зразаць нажом ту-ж пры зямлі, а корань прыгарнуць самой зямлёй. Толькі калі трэба бывае грыб некуды пераслаць у стане сырым, тады яго выбіраюць разам з каранём і нават зямлёй. Ува ўсякім разе трэба сьцерагчыся, каб ня нішчыць маладых грыбкоў, што знаходзяцца йшчэ пад зямлёй. Старыя грыбы, што тавару добрага ўжо даць ня могуць, найлепш пакідаць на насеньне.

Вымаганьні рынку—пераважна заграні́чнага—да паасобных спатыканых у нас грыбоў будуць больш-менш наступныя:

С м а р ш ч к і перадусім ачышчаюцца з зямлі сухой сьціркай, або нажом (вадой ня можна!), а канцы каранёў, калі іх цяжка абчысьціць — абрэзваюцца. Пасьля іх ніжуць праз сярэдзіну шапачкі і караня на шнуркі, 50 - 70 ст. (аршын) доўгія так, каб большыя грыбы былі пасярэдзіне, а меншыя — пры канцох і сушаць лёгка на сонцы. Як толькі пры датыканьні да смаршчка з яго не цячэ вада, тады яго дасушваюць у печы высьцелянай саломай, або іншай якой пляцёнкай, пры тэмпэратуры 50 - 70°C. Высушаны смаршчок павінен адпавядаць гэткім варункам: шапачка ня шырэйшая $7^1/_2$ ст., жоўта-шэрая, цёмна-рудая ці жоўта-бранзовая. Мякіш грыба павінен на зломе быць белым з слабым але прыемным запахам. Корань роўны, не даўжэйшы 8 см., 3 см. угрубкі, сьветлы, усярэдзіне пусты. З 10 кілёграмаў сырых смаршчкоў бывае 1 кілёграм сушы. Малыя і сярэднія смаршчкі, колеру жоўта шэрага і жоўта-бранзовага — найлепшыя; за імі йдуць — вялікія, цёмна-бранзовыя і чорныя. Асобна сартуюцца смаршчкі з шапачкай круглай і асобна—з шапачкай вострай. Зцымаюцца пры гэтым яны з нітак і складаюцца ў скрынкі, або ў чыстыя палатняныя мяшкі, вагі ад 10 да 20 кл. — Раньнія баравікі тавару ходкага не даюць. Далей падходзяць рыжыкі, лісічкі, баравікі ўласьцівыя (васеньнія), зялянкі. —Найважнейшым з іх ёсьць

Б а р а в і к. Прад сушэньнем ці іншым прыгатаваньнем баравіка, яго трэба ачысьціць ад пяску, а корань абразаць датуль, пакуль ня будзе белым. Сушэньне пачынаецца таксама спачатку на сонцы і канчаецца ў печы. Пры гэтым грыбы звычайна нанізываюцца на шпяні з лучыны, або і бяз гэтага (вольна). У печы раскладаюцца грыбы, шапкамі ў верх, таксама на саломе, або на сумысна да гэтага прыгатаваных пляцёнках з лазовых ці вярбовых пруцьцяў. — Залеж-

на ад якасьці самога грыба і спосабу ягонага прыгатаваньня, дзеліцца тавар на тры і нават чатыры сарты: I— самыя толькі шапачкі, без карэньняў, зьверху бранзовыя, зьнізу— белыя; II — шапачка цытрынова-рудая, корань сьцяты на адну траціну; III—шапачкі чырвоныя, корань сьцяты да паловы. Урэшце ўсякія адпадкі, што на вываз ня йдуць, а толькі меляцца на муку да ўсякіх сосаў і зупаў. — Вывозныя сарты баравікоў (I, II, III) не павінны мець больш як 20 проц. вільгаці. На 1 кілё сушы йдзе 7 кілё грыбоў сырых. Шырокасьць шапачкі грыба ня можа быць большай 7 см.

Баравікі прыгатаваныя на экспорт ніжацца ў вянкі даўжынёй 1 з паловай мэтры (сярэдняе). Нізаць ў вянкі трэба пры гэтым так, каб шапачкі з абодвых канцоў вянка былі ўгару, вялікія — ўнізе, а меншыя — ўвярху. Вянкі вяжуцца ў пучкі вагі па 5 кілё і пасьля або пакуюцца ў чыстыя палатняныя мяшкі, або ў ценькія скрыначкі, даўжыні 1.60 м., вагі—акрамя апакаваньня — 20 кілё.

Акрамя гэтага спосабу прыгатаваньня грыбоў да спажыцьця і экспорту, ёсьць яшчэ спосабы іншыя. Патрабуюць яны аднак і фаховага дагляду і асобных прыладаў, што ўсё разам узятае вымагае значных сумаў грашовых. — Ёсьць гэта йшчэ адзін довад, адна прычына, дзеля чаго наша сялянства перадусім павінна лепш пазнаць коопэрацыю, каб коопэратыўным спосабам перарабляць ўсякія грыбныя прадукты і што найважнейшае — сарганізаваць збыт і выкарыстаньне сырых грыбоў. м. я.

# Гілёу трэба нішчыць.

Каму-ж ня ведама, як скаціна „гілюе"?! Гілюе-ж яна не з дабра, не з таго, што добра напасьвілася і больш ужо нічога для сябе не жадае: гілюе, бо адчувае небясьпеку для свайго здароў'я і страту для гаспадара. Як-жа гэта ёсьць?

Да гіляваньня паганяе скаціну муха — гіль, якая складае на поўсьці скаціны каля 500 яечак. З іх выходзяць малыя рабачкі, якія дастаюцца — праз скуру і пры зьлізываньні языком — у нутро жывёлы, дзе і гадуюцца на будучых гілёў — мух. У міжчасе ад травеня да ліпеня гэтыя гілі-рабакі дастаюцца з наскурных гузоў (вугроў) наверх (звычайна раніцай паміж 4—8 гадз.), падаюць на зямлю, гдзе праз нейкі час (ад паўгоду да году)ператвараюцца ў сапраўдных гілёў-мух. Жыве гіль-муха ўсяго толькі каля пяцёх дзён, кладзе яйкі і гіне. — Гілі-рабакі, што вывальваюцца з вугроў у гной — далей не разьвіваюцца, але самі гінуць.

Кароткае жыцьцё гіля аднак бывае для скаціны вельмі дакучлівым: хмары гілёў нападаюць на скаціну (і коняў), непакоячы іх і дзеля таго малочныя каровы трацяць на малочнасьці, а маладняк не разьвіваецца (не расьце). Мяса скаціны, нападанай гілямі, трацiць на вартасьці, скура — таксама (дзюравіцца).

Трэба дзеля гэтага гілёў нішчыць. Прад выганяньнем скаціны ў поле скуру ейную трэба заўсяды ачышчаць з гілёвых рабакоў, а вугры трэба таксама выціскаць пальцамі.— Вугры недасьпелыя лёгка выціскаць не даюцца. Тут патрэбна пэўная ухватка. Праз адкрыты вяршок гуза (вугра) накалываецца шпількай ці шылцом чарвяк гіля, нутро каторага пасьля выціскаецца пальцамі. — Да выцягваньня чарвякоў гіля ўжываецца таксама йшчэ кручок, каторым плятуцца ценькія каруны. Гэты кручок уводзіцца ў вугор на глыбіню 1·2 см. пад чарвяка так асьцярожна, каб не параніць ані жывёлу, ані самога чарвяка. Пасьля, аднэй рукой падцягваецца кручком чарвяк на гэтулькі, каб шчыпчыкамі з карбаванымі берагамі ў другой руцэ можна было падхапіць высунутую наверх часьць гэтага-ж чарвяка і выцягнуць яго цалком. На пачатак гэты спосаб здаецца нават трудным, але немцы і данцы яго шырака ўжываюць і вельмі хваляць.

Калі б чамусьці гэтых спосабаў нішчэньня гілёвых чарвякоў ня можна было застасаваць, астаецца самыя вугры абстрыгчы з шэрсьці і змазаць дзёгцем раз, а за тыдзень—другі раз.— Калі хацець павясьці рашучае нішчэньне гілёў, дык трэба нішчыць іх цэлай вёскай, або і ваколіцай. Правілам пры гэтым мусіць дбаць, каб не радзей, як раз за два тыдні, рана, прад выганяньнем скаціны ў поле, акуратна яе абгледзіць, ці ня мае гілёвых вугроў, асабліва на хрыбце, і калі так, дык старацца іх павыціскаць. — Штодзеннае акрамя таго чышчэньне скуры скаціны вехцем саломы, ці яшчэ лепш — шчоткай найбесьпячней бароніць скаціну ад пазьнейшай дакукі і шкоды.

(Паводле „Т. R." № 19—20.)

# Гаспадарчая хроніка.

III Паўночны Кірмаш і Льнярская Выстаўка ў Вільні мае адбыцца ў міжчасе ад 28 жніўня да 10 верасьня с. г. У зьвязку з жыдоўскім байкотам нямецхіх тавараў, арганізатары Кірмашу і Выстаўкі многа сабе ад іх абяцаюць. Побач з льнярскім аддзелам, які будзе мясьціць у сабе шмат машын і прыладзьдзя патрэбных да гадаваньня і пераробкі лёну, будуць выстаўляцца між іншым наступныя віды промыслаў: 1) мэталічны і машынова-тэхнічны, 2) будаўляны, 3) электротэхнічны, 4) ткацкі, 5) хэмічны, 6) мануфактура і конфэкцыя, 7) галянтэрыя, вырабы гумовыя і футраныя, 8) промысел дравесны і дравесная галянтэрыя, 9) промысел скураны, 10) цукраварскі, 11) аўтомабільны, 12) земляробскі, 13) аптэкарскі, 14) музычны, 15) паперны, 16) броварны і іншыя. — Спадзяюцца ўчасьця фірмаў чэхаславацкіх.

Курс грошэй. Дня 1.VI.1933 г. плацілі за долар 7 зл. 48 гр.; за рубель золатам — 4 зл. 89 гр.

Redaktar-Vydaviec inž. A. KLIMOVIČ.

Biełaruskaja Drukarnia im. Fr. Skaryny, Vilnia, Zavalnaja 6—10.

## ЦЭНЫ Ў ВІЛЬНІ

**паводле нотаваньняў Віленскай збожжова-таварнай і льнярскай бурсы з 19 да 29.V 33 г. за 100 кілё; тавар сярэдняй якасьці.**

Жыта мяшанае — ад 19.50 да 18.50 зл.; пшаніца мяшаная — ад 31 00 да 30.00 зл.; ячмень на крупы — ад 16.00 да 16.50 зл.; авёс — ад 13.50 да 14.00; мука жытняя 55 прац. — ад 32.00 да 30.50 зл.; мука жытняя 65 прац. — ад 24.00 да 25.50 зл.; мука разовая — ад 22.50 да 2[illegible].00 зл.; мука сітняя — 2[illegible].00 зл.; мука пшонная 0000 — 56.25 да 54.75 зл.; крупы грэчныя 1/1 паленыя — 40.00 да 36.00 зл.; пансак ячменны № 3 — 33.50—34.00 зл.; вотрубы жытнія — 10.00; вотрубы пшанічныя — 10.50—10.75 зл.; грэчка —; фасоля белая —; крупы аўсяныя — 50. — Цэны лёну бяз зьмены.

**Малочнае** (паводле нотаваньняў Віленскага малачарскага саюзу з 31.V.33 г.): масла найлепшае за 1 кілё ў гурце — 2.30 — 2.40 зл., у дэталю — 2.60; масла сталовае у гурце ад 2.10 да 2.20 зл., у дэталю — 2.40 зл.; масла соленае — —; сыры літоўскія за кілё ў гурце ад 2.00 да 2.60 зл., у дэталю ад 2.20 да 3.00 зл.; сыры з тварагу за кілё у гурце 1.10 зл., у дэталю — 1.30 зл.; яйкі за капу — ад 3.00 да 4.50, за штуку — ад 6 да 8 гр.; сьмятана ў гурце — 1.20, у дэталю — 1.50 зл..

**Мяса** за кілё: гавяда (валовіна) за кілё бітай вагі—ад 1.20 да 1.40, сьвініна—ад 1.35 да 1.50 зл.

# Наваградзкая Дзяржаўная Беларуская Гімназія

**(ФІЛІЯ ДЗЯРЖАЎНАЕ ГІМНАЗІІ ІМЯ А. МІЦКЕВІЧА Ў НАВАГРАДКУ), тыпу матэматычна-прыродазнаўчага, у 1933/34 школьным годзе будзе мець клясы І (б. ІІІ-цюю), IV, V, VI, VII і VIII.**

У І-шую зрэформаваную клясу прыймаюцца:

А) дзеці, якія маюць пасьведчаньне аб скончэньні 6 аддзелаў пачаткавае шкошколы альбо II клясы прыватнае гімназіі, з няпоўнымі правамі дзяржаўных гімназіяў;

Б) дзеці, якія гэтых пасьведчаньняў ня маюць.

Кандыдаты з групы „А“ здаюць уступны экзамін з польскае мовы, беларускае мовы, прыроды і арытмэтыкі з геомэтрыяй па праграме 6 аддзелаў сяміклясовае пачаткавае школы альбо І і II клясы гімназіі — залежна ад таго, з якой школы кандыдат паступае. Пры экзаміне з польскае мовы праверавецца прыгатаваньне з географіі.

Скончыўшыя 6 аддзелаў 3-ох, 4-ох і 5 цёх клясовых пачатковых школаў, апрача таго, здаюць экзамін з нямецкае мовы. — Кандыдаты групы „Б“ здаюць поўны экзамін з усіх прадметаў па тэй-жа, што першая група, праграме.

Прыймо ў клясы IV—VIII адбываецца на падставе экзамінаў па праграме дзяржаўных гімназіяў матэматычна-прыродазнаўчага тыпу:

1) з усіх прадметаў — для кандыдатаў, якія ня маюць школьных пасьведчаньняў аб скончэньні папярэдняе клясы дзяржаўнае альбо прыватнае, з поўнымі правамі дзяржаўных, гімназіі;

2) з розьніцы праграмы — для тых, якія маюць пасьведчаньне аб скончэньні ў 1932-33 шк. годзе папярэдняе клясы дзяржаўнае альбо прыватнае, з поўнымі правамі дзяржаўнае гімназіі, інакшага, чым матэматычна-прыродазнаўчы, тыпу;

3) з беларускае мовы — для кандыдатаў з дзяржаўных ці поўнапраўных прыватных гімназіяў матэматычна-прыродазнаўчага тыпу.

Да экзаміну ў І клясу дапушчаюцца кандыдаты, якія маюць ня меней 12 і ня болей 16 гадоў, у вышэйшыя клясы граніцы веку ўзрастаюць адпаведна на адзін год.

Для дапушчэньня да экзаміну ў VII і VIII клясу вымагаецца дазвол Віленскага Куратарыюму.

Да просьбаў належыць абавязкава далучыць: 1) мэтрыку нараджэньня; 2) апошняе школьнае пасьведчаньне; 3) пасьведчаньне доктара аб паўторным прышчэпе воспы; 4) пасьведчаньне доктара аб здароўі; 5) плату за экзамін: у VIII кл.— 20 зл. і рэшту клясаў—10 зл.

Экзаміны адбудуцца ад 15 да 21 чэрвеня 1933 году.

